 

# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 46 (977) ГОД XIX 17 ЛІСТАПАДА 1974 г. ЦАНА 60 гр.

## У КРЫНКАЎСКІХ ГАРБАРОЎ



*Рухомыя бубны, у якіх адбываецца гарбаванне скуры.*

Крынкі — гэта перш за ўсё гарбарні. Без іх няма Крынак.

Першыя гарбарні паявіліся тут пад канец сямідзесятых гадоў мінулага стагоддзя. Спачатку былі гэта малыя майстэрні, у якіх працавала па некалькі чалавек. У той час жылі з іх пераважна яўрэі і татары. З часам — у дзевяностых гадах пабудавалі вялікія фабрыкі.

Крынскія фабрыканты багацелі на расійскім рынку збыту. Свае факторыі трымалі яны нават у далёкіх, кіргізскіх стэпах, дзе адбываліся гіганцкія закупкі першакласных скур.

Пры санацыйнай Польшчы і яе антысавецкай палітыцы Крынкі збяднелі: гандлёвы ўсход апынуўся за кардонам, а ў заходнім напрамку крынская скура не мела такога вялікага попыту. Горад паменшаў амаль удвая ў параўнанні з 1913 годам (у 1938 годзе Крынкі налічвалі крыху больш пяці тысяч асоб).

Настаў крызіс.

Апошняя вайна надоўга вынішчыла мястэчка: тысячы забітых ды загазаваных у канцэнтрацыйных лагерах, цэнтр разбіты да фундаментаў, па гарбарнях засталіся адны ямы — „чапы“ ды паіржавелыя асколкі машын. У пачатку пяцідзесятых гадоў пачалося адбудоўванне часткова ўцалеўшага будынка найбольшай гарбарні, у квартале Пагулянка. Прыйшлі гарбары, нярэдка бацькі з сынамі. Дружнаю працаю дабіліся таго, што крынкаўская прамысловасць аджыла, засвістала першым, пасляваенным фабрычным гудком. Іх гаравітая работа зноў сталася падставаю росту значэння Крынак, горада, якому ўжо паўтысячы год.

Цяпер у гарбарні працуе звыш двухсот рабочых. Многа гэта, ці мала? Пры старадаўняй гарбарнай тэхніцы было б гэта напэўна нямнога. Але ў нашы дні? Цаною каля шасцідзесяці мільёнаў — узніклі ля старой гарбарні новыя аб'екты (з той тыповай індустрыяльнай архітэктурай), механізаваны цяжкія вытворчыя працэсы; людзі абслугоўваюць складаныя механізмы — зрэшты, купленыя за долары — без ніякай замінкі; аўтаматызацыя і тэхнічны прагрэс з'яўляюцца неабходнасцю, ратункам ад раптоўнага недахопу рабочай сілы, які наглядаецца, амаль з месяца ў месяц, не толькі ў нашай краіне.

Крынская гарбарня ператвараецца ў камбінат. У наступныя гады — узнікнуць чарговыя фабрычныя цэхі. А магчыма, што Крынкі стануць адным з цэнтраў гарбарнай прамысловасці ў Польшчы (існуе такая канцэпцыя, у выпадку рэалізацыі якой у Крынках будзе мець месца канцэнтрацыя капіта-

Працяг на стар.4

## НА НІВЕ БГКТ

### У БЕЛАСТОЦКІМ ГАРАДСКІМ АДДЗЕЛЕ

Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку на 31 снежня 1973 г. меў 440 членаў, у тым ліку ва ўзросце ад 18 да 30 год — 345 асоб, паводле адукацыі 343 асобы — гэта людзі з няпоўнай сярэдняй або сярэдняй школай і 34 асобы з поўнай вышэйшай адукацыяй. Гэта акрэслівае і характар дзейнасці аддзела: у цэнтры яго ўвагі моладзь.

Вось як выглядала праца аддзела ў 1973/74 культурна-асветным сезоне. Па ініцыятыве праўлення аддзела быў выбраны сяміасабовы савет клуба, а яго старшыня **А. Казімерук** увайшоў у члены праўлення і прэзідыума аддзела. І гэта, між іншым, гарантавала таксама цесную сувязь працы праўлення аддзела з клубам і моладдзю, якая яго наведвае. Сістэматычная праца і цікавыя мерапрыемствы спрыяюць таму, што колькасць членаў у аддзеле ўвесь час павялічваецца — у першым паўгоддзі гэтага года прыбыло 51 чалавек, а цяпер таксама штотыдзень па некалькі асоб уступае ў БГКТ.

Аддзел актыўна ўключыўся ў перадвыбарчую кампанію ў рады нарадовыя. Між іншым, у аддзеле адбылася ўдалая сустрэча з радным Ваяводскай рады нарадовай, старшынёй ГП БГКТ **М. Самоцікам.** Урачыстай вечарынай з выступленнем самадзейнікаў Лужыцкай часці Войск аховы граніцы была адзначана XXX гадавіна Людовага Войска Польскага, яна ператварылася ў цёплую сустрэчу салдат з моладдзю нашага аддзела. На ўрачыстасці ў гонар 56-ай гадавіны Савецкай Арміі з дакладамі аб ролі Узброеных сіл СССР у абароне міру на зямлі выступілі капітан ЛВП **П. Дзеконскі** і старшыня аддзела **М. Гайдук.** Міжнародны жаночы дзень быў адзначаны акадэміяй і канцэртам у выкананні салістаў і калектываў аддзела. Міжнароднае свята працоўных 1 Мая было ўшанавана акадэміяй, на якой з дакладам выступіў старшыня ГП БГКТ **М. Самоцік,** а самадзейнікі аддзела далі спецыяльны канцэрт. Таксама на высокім узроўні прайшлі ўрачыстасці ў гонар 30-годдзя Народнай Польшчы.

Сярод праведзеных у аддзеле сустрэч і лекцый неабходна прыгадаць: сустрэчу з **Г. Валкавыцкім** — галоўным рэдактарам „Нівы“, з лодзінскім пісьменнікам і перакладчыкам беларускай паэзіі на польскую мову **Я. Гушчам,** з заслужаным дзеячом ППР, членам аддзела **Ф. Савіцкім,** з заслужаным дзеячом культуры **А. Флістаком,** з бэгэкатоўскімі літаратарамі **А. Барскім, С. Янові-**

(Працяг на стар. 4)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

**Гайнаўцы — Штандар Працы ● У педагагічнай ваяводскай бібліятэцы ● Інтэрв'ю з намеснікам начальніка Сакольскага павету ● Карэспандэнцыя з Горнапраўдзінска ● Узоры Сацоў ● Весткі з Нараўкі, Бернікаў, Ляшукоў, Бандароў, Боцькаў, Курашава, Асоўкі, Мокрага, Дубіч Царкоўных, Парцава, Зубава, Дубяжына, Пачапка, Міклашоў, Чыжоў і інш. ● Песня „Staropolskim obyczajem”.**




Гайнаўшчына заўсёды была на самым дне статыстычнай драбіны Беластоцкага ваяводства.

— На жаль, гэта праўда, — сцвярджае начальнік Гайнаўскага павету, тав. **Анатоль Гінпит.** — Калі каму патрэбны быў адмоўны прыклад, дык паказваў пальцам наш павет. Гаварылі так: у краіне апошняя Беласточчына, а на Беласточчыне апошняя Гайнаўшчына. А мы толькі чырванелі ад сораму і бездапаможна раскладалі рукі. **На шчасце, гэта ўжо мінулы перыяд нашай гісторыі.**

І вось паказваюць мне дакументы, з якіх вынікае, што даволі высокі мінулагодні план па продажы мінеральных угнаенняў быў выкананы поўнасцю і ў тэрмін. А вось у ліпені і жніўні гэтага года сяляне Гайнаўшчыны купілі звыш 6 тыс. тон мінеральных угнаенняў. Гэта многа, бо амаль у 2 разы больш, чым было прададзена ў тых самых месяцах мінулага года.

Знаючы гэтае павышанае зацікаўленне штучнымі ўгнаеннямі, паверыў я і ў прырост ураджаю, якога гайнаўскія хлебаробы дабіліся на працягу двух апошніх гадоў. Цяпер Гайнаўшчына зраўнялася ў гэтай галіне з лепшымі паветамі.

Не толькі аб павышэнні ўраджаяў думалі аграномы і сяляне. Прыкметай адсталай гаспадаркі з'яўляецца таксама такая структура пасеваў, у якой побач з жытам і бульбай зусім мала іншых сельскагаспадарчых культур.

І вось зноў паказваюць мне падлікі чэрвеньскага сельскагаспадарчага перапісу, з якога вынікае, што плошча пад пшаніцай павялічылася на звыш 18 працэнтаў, а пад ячменем аж на 23 прац. Ды не справа ў гэтых працэнтах. Важны напрамак перамен. Працэнты толькі даказваюць, што зацікаўленне хлебаробаў накіроўваецца ў бок больш рэнтабельных сельскагаспадарчых культур, якія даюць вышэйшы прыбытак, ад якіх адразу папаўняецца дамашняе конта.

— Па ўсіх паказчыках сельскагаспадарчай вытворчасці, — з гордасцю сцвярджае начальнік Гінпит, — мы ўжо апярэдзілі патрабаванні цяперашняй пяцігодкі.

— І ў галіне жывёлагадоўлі таксама? — пытаю.

— Так, у гэтай галіне мы таксама апярэджваем указанні пяцігадовага плана.

Я зноў недаверліва прысеў над шматлікімі зводкамі чэрвеньскага сельскагаспадарчага перапісу. Калі ўсё пададаваў, памножыў і падзяліў, выйшла, што на працягу года — неймаверна! — рагаты статак Гайнаўскага павету павялічыўся на звыш 12 прац. Такога прыбытку ніхто нідзе яшчэ не аднатаваў. Адначасова амаль на 7 прац. прыбыло свіней.

Значыць, сельскагаспадарчая Гайнаўшчына шпарка багацее. Гайнаўскія эканамісты падлічылі, што ў параўнанні з I палавінай мінулага года даход сялян Гайнаўскага павету павялічыўся ў гэтым паўгоддзі на звыш 30 прац. Толькі за сельскагаспадарчыя прадукты, прададзеныя дзяржаве, сяляне атрымалі каля 200 мільёнаў зл. А гэта ж не адзіная крыніца прыбытку жыхароў вёскі. Таму і папаўняюцца запісы на ашчадных кніжках. **Цяпер на аднаго статыстычнага жыхара Гайнаўскага павету прыпадае 4.261 злоты пэкаоўскіх ашчаднасцей.**

Гэты год быў добры таксама для Гайнаўскай прамысловасці, якая сваю вытворчасць павялічыла на звыш 9 прац., пры нязначным прыросце колькасці працуючых.

Значыць, урэшце, заглянула сонца і ў гайнаўскае аконца. Стала ясней і прыемней жыць.

**Максім Нурэцкі**

 

(Працяг са стар. 2)

# ПЕРШАЯ КАЗКА АБ ПРАЎДЗЕ

новы не маглі быць здзейснены, бо пачалася вайна. Зараз жа пасля вайны, у 1946 годзе рушылі ў Сібір новыя экспедыцыі. Бурылі ў розных месцах. Аднак, з увагі на слабасць тэхнікі, трымаліся старых шляхоў, гарадоў і асад. Бурылі 7 гадоў, і нідзе не было ніводнага фантана газу або нафты.

Нарэшце ў кастрычніку 1953 г. наступіў пералом. Адбыўся ён у Бярозаве, мясцовасці, у якую ў мінулым быў сасланы саратнік Пятра I Меншыкаў. Бурыльную вышку ў Бярозаве геолагі паставілі выпадкова. Мелі бурыць глыбока ў тайзе. Аднак, моцна разлілася мясцовая рака, і яны не былі ў стане пераправіць тэхніку. Начальнік экспедыцыі Аляксандр Быстрыцкі ставіць вышку ў самым Бярозаве. Прабурылі на адпаведную глыбіню, аднак газу і нафты не было. Рашылі спыніць. Пакінулі некалькі чалавек, якія мелі выцягнуць з зямлі ўсе прылады. Уначы пачуўся страшэнны гук і трэск. Са скважыны пайшоў паток газу і вады. Кожны дзень ішло з зямлі 1 мільён кубаметраў газу. У Бярозаве выбухла паніка. Старыя гаварылі, што геолагі выверцілі дзірку да пекла і разгневалі чорта. Многія жыхары пагрузілі маёмасць на лодкі і ўцяклі з Бярозава куды вочы глядзяць.

Пачаліся маразы. Вада, якая вылятала з зямлі, замярзала па канструкцыі буравой вышкі. Стварыўся фантастычны твор з лёду і сасулек.

З'ехаліся спецыялісты з усяго СССР. Адзін з іх, інжынер Лютаў, падыйшоў да вышкі. Велізарная ледзяная сасулька абарвалася, ударыла ў галаву інжынера і забіла яго. Цяпер у Бярозаве ёсць вуліца імя Лютава.

Трэба было абавязкова ўставіць у скважыну спецыяльную трубу, а пасля яе закупорыць. Нялёгка, аднак, гэта зрабіць, калі ў скважыне быў ціск за 150 атмасфер. Струя газу і вады магла ў любы момант забіць чалавека, тым больш, што ўвесь час выкідвала абломкі скал і каменняў.

Урэшце механік Парвушын абавязаўся ўставіць трубу. Труба гэтая мела ў сярэдзіне спецыяльныя крылы, якія ўстрымоўвалі камені і абломкі скал. Чалавек перамог разбушаваную стыхію. Заткнуў ёй горла.

Пасля адкрыцця бярозаўскага газу затрыумфавалі энтузіясты сібірскай нафты. Але ненадоўга. Справа ў тым, што ўсе экспедыцыі, якія былі накіраваны на Цюменшчыну, не знаходзілі больш ні нафты, ні газу. Прайшло аж восем гадоў у бясплодных пошуках.

Ізноў да голасу дайшлі скептыкі. Але трыумф іх быў ужо трыумфам апошнім. Рэчаіснасць нанесла ім удар. У 1961 годзе экспедыцыя пад кіраўніцтвам Урусава знайшла ў мясцовасці Урай першую сібірскую нафту. Гэтак пачалася біяграфія цюменскай нафты. Зараз раён Урая дае 6 мільёнаў тон нафты ў год.

**Алесь Барскі**

---

нак, „Трыялет“ — твор каштоўны.

Верш „Ўжо пара мне дадому збірацца“ — гэта зварот-скарга маладога хлопца, якому не хочацца пакінуць сваю каханую. Твор перадае сапраўдны настрой закаханага чалавека.

Твор „О, сум, засні ў душы маёй“ спецыфічны ў спосабе рыфмоўкі. Багдановіч наогул рыфмаваў у сваіх вершах першы радок з трэцім, а другі з чацвёртым. Тут маем дачыненне з двухрадкавымі страфамі. Рыфмуецца ў іх першы радок з другім. Другая характэрная рыса верша заключаецца ў тым, што пабудаваны ён у форме дыялага, размовы, якую вядзе герой з сваім сэрцам. Тэматычна твор гэты прысвечаны зноў расстанню закаханых.

Апошні верш, на які хочам звярнуць увагу, называецца „Маркотна я чакаю“. Гэта лямант закаханага, які марыць аб спатканні дарагой дзяўчыны. Пачуццё яго настолькі моцнае, што бачыць ён усюды толькі яе адну і з-за гэтага не бачыць навакольнага свету. Зрэшты, хто з нас не ведае, што для закаханага ўсім светам з'яўляецца якраз тая дарагая, адна.

З усяго сказанага відаць, што ўсе прыведзеныя вершы Багдановіча даволі разнародныя па форме і даволі манатонныя па зместу. Стылістычныя асаблівасці набліжаюць гэтыя вершы да песеннай лірыкі.

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

РЭКРУЦКАЯ

Allegro

Іш-ла, іш-ла чор-на хма-ра, А за е-ю сі-ня.

По-ро-ді-ла бед-на вдо-ва сол-дац-ко-го сы-на.

*Ішла, ішла чорна хмара,*
*А за ею сіня.*
*Породіла бедна вдова*
*Солдацкого сына*
*Нэ поспела ж вона його*
*На ручэнькі взяті —*
*Запісала вся грумада*
*В рэкруты оддаті,*
*Запісала вся грумада*
*В рэкруты оддаті.*

*— Нэхай пішут, нэхай бэрут*
*Тую п'янічэньку —*
*Што дэнь піе, ноч гуляе*
*Дома нэ бывае.*
*Трэті пеўні на воротах*
*Сказаў: „Кукарэку!“ —*
*Нэ обачыш, маті, сына*
*Од ніне до веку.*
*Нэ обачыш, маті, сына*
*Од ніне до веку.*

Ад Феадосіі Маліш, 1900 года нараджэння, вёска Тыневічы Вялікія Гайнаўскага павету, запісаў 24 верасня 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

## Футбольная каманда з Масева

Маладыя спартсмены з Масева Гайнаўскага павету найлепш любяць футбол. Таму перш за ўсё стварылі яны футбольную каманду, у склад якой увайшлі: Міраслаў Леўша (варатар), Славамір Кічкайла, Генрык Вярбіцкі, Васіль Раманчук, Славамір Раманчук, Уладзіслаў Ластавецкі, Ян Тарадынка, Андрэй Семаковіч, Ян Ламашкевіч і Сяргей Карэтка.

У гэтым годзе сыгралі яны пяць футбольных матчаў. Перамогай завяршылі масеўскія футбалісты матчы з камандамі з Міхалова (15:4), Плянты (3:0), Семяноўкі (2:0). Не адолелі толькі футбалістаў з Ляўкова і Нараўкі.

Масеўская футбольная рыхтавалася да сёлетніх розыгрышаў на школьнай пляцоўцы. На ёй сыгралі таксама некалькі матчаў з футбольнымі камандамі з суседніх вёсак.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

## Сельгасгурткі прадукуюць

Мяса, малака, хлеба і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў трэба нам усё больш. Таму неабходна гаспадарыць зямлёю правільна і ашчадна. На Беласточчыне ёсць даволі вялікі запас малаўраджайнай зямлі. Больш 70 тысяч гектараў, якія ў значнай меры ляжаць адлогам. Усё больш загаспадарваюць гэтую зямлю сельскагаспадарчыя гурткі. Дагэтуль пераняlі яны адзінаццаць тысяч гектараў. Да канца гэтага года загаспадараць яшчэ тысячу гектараў гэтай „нічыёй зямлі“, а ў наступным годзе — чатыры тысячы гектараў. Сельгасгурткі вырошчваюць на ПФЗ-этаўскіх зямельных угоддзях перш за ўсё збожжавыя культуры, лубін, розныя сарты траў, займаюцца жывёлагадоўляй. Ужо цяпер яны адкормліваюць 9 тысяч свіней і прадаюць дзяржаве 1200 тон мяса. Збіраюць збожжа з шасці тысяч гектараў. Найбольш у Сакольскім, Беластоцкім і Гайнаўскім паветах. Свіней упершыню пачаў гадаваць сельскагаспадарчы гурток у Камёнцы Беластоцкага павету, які ў адрамантаваным мураваным будынку пасяліў 260 свіней. Крыху пазней жывёлагадоўляй заняліся сельгасгурткі ў Саках, Ставішчах, Іванках, Дубічах, Навасадах і Барысаўцы Гайнаўскага павету, у Гуранах, Піражках і Хмялеўшчыне Сакольскага павету, у Тапалянах, Новай Волі і ў Васількове Беластоцкага павету. Такім чынам, гаспадарка на „нічыіх“ гектарах дае дадатковыя сотні тон збожжа і мяса. Сельгасгурткі, у дыспазіцыі якіх ёсць значныя фінансавыя сродкі, выкарыстоўваюць іх на агульнаграмадскія мэты. Напрыклад, на фінансаванне глыбінных (артэзіянскіх) студняў, на падтрымку важнейшых грамадскіх чыноў. (ця)

## Каштоўная сыравіна з Гайнаўшчыны

Аддзел Беластоцкага прадпрыемства паўторнай сыравіны (БППС) у Гайнаўцы заняў першае месца ў спаборніцтве аддзелаў у мінулым годзе. Дырэкцыя БППС у Беластоку ўзнагародзіла яго пераходным вымпелам і дыпломам, а загадчыцу Лідзію Губіну і работнікаў скупачнага пункта Таццяну Дамброўскую і Аляксандра Печку — грашовымі ўзнагародамі.

У мінулым годзе гайнаўскі аддзел БППС дабіўся найвышэйшай дынамікі скупкі. Найлепшымі вынікамі можа ён пахваліцца і за мінулыя дзесяць месяцаў гэтага года. Дагэтуль накапіў ён каля 500 тон паўторнай сыравіны агульнай вартасці 700 тысяч злотых. Найбольш паперы і ануч. Найбольш макулатуры дастаўляюць на пункт скупкі вучні пачатковых школ № 2 і № 5, а таксама агульнаадукацыйнага ліцэя № 9 у Гайнаўцы.

Рэкордных вынікаў у збіранні макулатуры ў нашым ваяводстве дабіліся вучні пачатковай школы № 5 у Гайнаўцы: Яўген Вілюк, які сабраў 1169 кілаграмаў (як узнагароду ён атрымаў веласіпед), і Міраслава Семянюк, якая сабрала 776 кілаграмаў (яна ўзнагароджана ручным гадзіннікам). Паспяхова праходзіла зборка макулатуры ў пачатковай школе ў Васьках. Тут кожны вучань сабраў каля трыццаці кілаграмаў макулатуры. Вялікая заслуга ў гэтым настаўніка Піліпа Грынявіцкага БППС у Беластоку ўзнагародзіла яго ручным гадзіннікам.

Аддзел БППС у Гайнаўцы паспяхова змагаецца за першынство ў спаборніцтве. (ця)

З маёй званіцы

## Паляванне на „Бізона“

Бяжыць, калісьці, любенькія, дзевяцігадовы Славік, хлапчо шустрае, па дзернякоўскай вуліцы і раптам прыстаў, як у зямлю ўкапаны. На камені пры дарозе рассеўся дзядзька Сарочынскі і плача. Вось, дзіва. І яшчэ дарослы, мужчына. Бо сёння і бабы не вельмі та, ведаеце, плакаць хочуць. Калі ён аднойчы суседавай Мані жывую жабу ў кошык з ягадамі палажыў, дык тая, бачыце, замест крыкнуць з перапалоху і слязьмі заліцца, так яго гэтым самым кошыкам па вуху хапіла, што пару дзён у галаве, быццам пчолы бзыкалі.

А тут, мужчына. У салдатах, кажуць, быў нават.

— Дзядзьку! Дзядзьку, а вы чаго гэта?

— Ой Славічак, Славічак, не зразумець табе, малы ты яшчэ, — заенчаў старэнькі. — А мне ўжо, бачыш, сіл не хапае, замучыў мяне, сынок, сельскагаспадарчы гурток з Гарадка. Мне ж не трэба, золатца ты маё, ад іх адразу „Бізона“, скажам. З мяне і меншага звера даволі. Каб толькі здабыць. Гэта ж і авёс быў, і жыта, а цяпер балота яшчэ не скошанае стаіць. Сам ніяк не дам рады. Мне ж даўно за 70 пераваліла.

Славік насцярожыўся.

— Ой, паблыталі, вы, дзядзечка, нешта, паблыталі. Ну які вам, скажыце, бізон у балота, а тым болей у авёс палезе? Яны на прэрыях водзяцца, ім падавай прастор. Вось там на іх чырванаскурыя і палююць. Вы кніжку пра Віннету, правадыра індзейцаў, чыталі?

— А дзе там, Славічак, калі? Я пастановы пра тое, што сельскагаспадарчыя гурткі ў першую чаргу старым і адзінокім памагаць маюць, і тыя пераглянуць паспеў толькі.

— Вось, бачыце. І скуль вам што ведаць? Індзейцы, яны за бізонамі на мустангах, бягом.

— А ты думаў, я што? Ну, праўда, я не мустанга там якога заграчнічнага, а вось „Камара“, нашага, свойскага, матаролер, на смерць заганяў, дыспазітара, старшыню гуртка і трактарыстаў па мяжах ганяючы.

— Дзядзечка, — не ўгамоньваўся Славік. — А вы б можа спосаб з перадзяваннем спрабавалі? Гэтакі індзеец часамі шкуру звярыную на сябе напяльваў, мацаваў на галаве рогі і скрадваўся, хітрасцю дзейнічаў, як кажуць.

— І не гавары, Славічак, нават. Было, усё было. І з перадзяваннем, і з раздзяваннем нават. Тут, ведаеш, адзін, браток ты мой, усіх чатырох дачок у адных купальных касцюмах размясціў у стратэгічных, як кажуць, пунктах. Ну, пры ўездзе ў вёску, значыцца, на скрыжаванні дарог, ну і пры бабцы-самагоншчыцы, вядома. Усе сабакі вясковыя ад брэху мала не падавіліся, вароны пазляталіся з усяго наваколля, а трактар ніводзін не стрымаўся.

— Ну, гэтак мы. А вось у Меляшках, любенькі, хлопцы суполку арганізавалі. Такім, вядома, помач усялякая па праву, належыцца. А гурток сельскагаспадарчы ў іх у Бялевічах. Тым проста раз'яснілі. Суполка, кажуць, дык суполка. Вас траіх, дык адзін за плуг, а двое ў плуг упрагайцеся.

— А найсмяшнейшае, Славічак, тое, што ў каго касілка свая, а ў нашай вёсцы іх з 10 будзе, адна матаровая пры тым, гэтым у першую чаргу гурткоўцы пакасілі. Гэта, каб яны сваімі сіламі не паспелі, даход каб не прапаў. Ну, бо тыя, што і не маюць чым, не дзенуцца нікуды, раней ці пазней у ласку прыйдуць.

— Такія, бачыш, справы. А чаму плачу? Ну, бо восень ужо. Амаль усе парабілі. Яно так. Калі, аднак, падумаеш, што ў наступным годзе ізноў гэтакія мытарствы будуць, то слёзы самі так і цякуць ручаінамі, безупынку.

**Ларс**

# ТРЫБУНА чытачоў




## У Каўпаках

Хоць даўно пісаў Ярош,
Праўды больш тут,
Як на грош.
У Каўпаках забава гучна,
Моладзь там гуляе зручна,
Як нап'ецца у Жака,
Пойдзе ў танцы драпака.
Пецька, Лёлік і Сяргей
Пяюць песню, як салавей,
А потым дахаты спяшацца,
Каб больш у рове не купацца.
Наш каханы Васілёк
У краме ў Каўпаках ізмок
І дахаты не спяшаўся,
А ў рове на градзе купаўся.
На каленях лез дахаты —
Быў не бедны, не багаты.
Жонка яго абмывае,
П'яніц долю праклінае,
Пахмяліўшыся, Валодзя
Заблудзіўся ў карагодзе,
Памажы ты, Мішка Грубы,
Аднайсці мне сваю любу.
Коля з Ванькам памагалі —
Іх з балота выцягалі.
Так бывае, мілы людзі,
У Каўпаках у карагодзе.

**Ярош**

## АЛЕСЯ

Алеся... А імя якое!
Празрыста, як крышталь,
Палае, нібы сонца залатое,
Блакітна, быццам даль...

Расцеш зялёнаю раслінай
З буйнымі кветкамі ўгару,
Ты злучана з зямлёй радзімай
Карэннем векавым. Але даруй...

Ты не маўклівая расліна,
Хутчэй ты песняй жураўлінай
Звініш у далечы, у сіняй.
І цяжка верыць,
што ты простая дзяўчына...
Не, сімвал ты
дачок усіх Радзімы.

**Алесь Рунь**
Мінск

Дзе ён тут у мяне заваліўся... Во. — Ён знайшоў сярод папер нейкі аркуш і, устаўшы, цераз стол сунуў яго Клімчанку. — Лейтэнант раздумна агледзеў паперу.

„Дарагія грамадзяне, мае аднапалчане, — было надрукавана дробным шрыфтам. — Байцы і камандзіры... палка. (Іш, сволачы, і месца пакінулі, толькі прастаўляй). Гэта звяртаецца да вас былы ваш камандзір (чырвонаармеец)". Зноў пропуск з шматкроп'я. Клімчанка зірнуў ніжэй, і там таксама ішлі пропускі — кропкі, усё звароты яшчэ чалавек да пятнаццаці з запрашэннем у палон. Тут жа меркавалася напомніць гэтым людзям іх канкрэтныя крыўды на Савецкую ўладу і пералічыць дабрабыты палону — 700 грамаў хлеба, гарачы харч з кавай, кожнаму коўдра, свабода ад бальшавізму, па жаданню касцёл, кірха або царква для веруючых. Байцам, месца жыхарства якіх было занята немцамі, абяцаўся водпуск дахаты.

„Ладна распісалі. Складна, — падумаў Клімчанка. — Так добра, што і дурань не паверыць". Услых, стараючыся паспакайней, ён аб'явіў:

— Добра! Чорт з ім. Я згодзен.

— Ну вось і лады. Віншую! — Чарноў выйшаў з-за стала і пацiснуў яго руку вышэй локця. — Раскалоўся, і дабро. Ну ведама ж, які сэнс паміраць за нейкі там папяровы прынцып. Праўда? Значыць, так! — З задавальненнем, як ад завяршэння нялёгкай справы, ён пацёр рукі. — Значыць, так: па расейскаму звычаю абмыем гэтую справу. Як-ніяк — людзей жа ад гібелі ратуем. Гэта, брат, не здрада. Гэта доблесць!

**(Працяг будзе)**

### ЗАТРАТЫ АД ВАДЫ

З вялікай радасцю чакалі жыхары Гайнаўкі разбудовы былога тартака. І некалькі год таму назад была адкрыта ў Гайнаўцы фабрыка мэблі. Былы тартак назвалі Гайнаўскім прадпрыемствам драўнінай прамысловасці. Новы завод прыняў на працу звыш 700 асоб.

Усё было б добра, каб не вада. Хапіла грошай на цэлы завод, забракла на адвод вады.

Непатрэбная вада адплывае з завода 10 метраў за плот на Ліпоўскія лугі. З добрай травы тут ужо нічога не засталося, дрэнная вада заліла 20 гектараў лугоў.

Гаспадары з Ліповай вуліцы ў Гайнаўцы, не маючы чым карміць сваіх кароў, прадаюць іх, а за грошы, атрыманыя ад фабрыкі ў якасці кампенсаты за шкоды, купляюць малако ў краме.

А вада з фабрыкі далей цячэ на лугі ўжо 5 год. Ёсць у гэтым месцы меліярацыйны роў, якім можна было б фабрычную ваду адпраўляць далей, але няма каму яго ачысціць. Роў зарос травой і не чысцілі яго ўжо 20 год.

Калі сама фабрыка не ведае, куды дзець сваю ваду, дык павінен пра гэта падумаць нехта вышэйшы. Нельга лёгкадумна марнаваць ураджайныя палеткі.

**Раса**

### ВАРТА ЗАЦІКАВІЦЦА

Едучы ў вёску Тафілаўцы, за крутым паваротам, блізка ад будынкаў, на жвіраванай дарозе знаходзіцца мосцік, пад якім працякае ручаёк. Даволі даўно ўжо з аднаго боку гэты мосцік праламаўся. Лопнула некалькі цэмбравін. Паўстала тут прабоіна, якая, праўда, за гэты час ад вятроў і дажджу ўжо напалавіну засыпалася пяском.

Дарога гэтая аднак важная, і неабходна, каб мясцовыя дарожныя ўлады пастараліся засыпаць дарэшты прабоіну або ўставіць новыя цэмбравіны.

**М. Панфілюк**

### ДОБРААХВОТНАЯ ПАЖАРНАЯ КАМАНДА Ў СПІЧКАХ

Даўно ўжо існуе ў Спічках добраахвотная пажарная каманда. Пачаткова ўсе пажарныя прылады ляжалі ў святліцы, але потым пабудавалі рамізу і ўсё перанеслі ў яе.

Жыхары вёскі Спічкі выкапалі таксама два супрацьпажарныя басейны і абгарадзілі іх сеткай.

На пажар пачаткова пажарнікі ездзілі фурманкай, цяпер ездзяць трактарам.

У спічкоўскай пажарнай камандзе 30 чалавек. Камендантам з'яўляецца Мікалай Хаманскі. Дзякуючы яму пажарная ахова ў Спічках дабілася поспехаў. Яна атрымлівае дыпломы на розных спаборніцтвах. Добра было б яшчэ, каб наша каманда атрымала пажарны аўтамабіль. Праца пайшла б тады шпарчэй.

**Васіль Асеннік**

## Цікавая сустрэча

У пачатковай школе імя А. Валкавыцкага ў Нараўцы Гайнаўскага павету адбылася аўтарская сустрэча пісьменніка Сакрата Яновіча з вучнямі васьмых класаў (каля 60 асоб).

Літаратар знаёміў вучняў з дзейнасцю літаратурна-мастацкага аб'яднання „Белавежа" ў Беластоку, расказаў аб сваім творчым шляху і прачытаў свае творы. Вялікае зацікаўленне выклікалі апавяданні са зборнікаў „Загоны" і „Вялікі горад Беласток". Удзельнікі сустрэчы выказалі пажаданне, каб нашы пісьменнікі і паэты часцей прыязджалі ў Нараўку на сустрэчы з моладдзю. Цікавыя пытанні ў адрас С. Яновіча, а таксама жывая дыскусія найлепш сведчылі аб тым, што сустрэча ўдалася і што існуе патрэба новых сустрэч з іншымі нашымі аўтарамі. (ця)

*ПАШТОЎКА З БЕЛЬСКА*



*Горад Бельск. Цэнтр. На пярэднім плане кветкавы дыван, а сярод яго „банкух" з жывых кветак.* **Фота Я. М.**

## Гарачае малако ў Паўлах

Усе вучні (110) школы ў Паўлах, Беластоцкі павет, ад кастрычніка п'юць малако на вялікім перапынку. Ініцыятарам гэтай карыснай справы быў вучнёўскі кааператыў.

Малако дастаўляе мясцовая злеўня, парыць Марыя Раманюк, а булкі бярэ з мясцовай крамы і прадае вучнёўскі кааператыў.

Пяцёрка паўлаўскіх настаўнікаў таксама разам з вучнямі п'е малако з булкай.

Раённая малачарня ў Бельску Падляшскім абяцала пазычыць аднолькавыя кубкі для малака, ды дагэтуль не прывезла. (вм)




**Васіль Асеннік** — Верш „Бацька і сын" надрукуем.

**Анна Дзенісюк** — „Ты прыходіш і одходіш" і „Бігу я стэжкою і плачу" надрукуем. Першы лепшы. Адносна апавядання — мы не маем магчымасці друкаваць доўгіх твораў.

**Ірэна Кузьма** — „Лёгкія грошы" надрукуем. Верш па тэме добры, таксама і па форме.

**Ян Манюшка** — Як жа многа суму і меланхоліі ў вашых вершах. Так, жыццё ідзе, плыве нястрымна, і кожная эпоха мае іншыя мэты. А мо прычынай восень?! Некаторыя з вершаў надрукуем.





*Хата ў Тыневічах Малых (Гайнаўскі павет).*

**Фота Я. М.**

### ГАЙНАЎШЧЫНА ПЕРАД АГЛЯДАМІ

Беларуская песня з давен-даўна карысталася ў нас вялікай папулярнасцю. Беларускую песню спяваюць у нас на акадэміях, фэстынах, вяселлях, дажынках і ўвогуле пры розных нагодах.

Гайнаўскі аддзел БГКТ штогод арганізуе агляды беларускай песні і драмгурткоў. Штогод прымае ў іх удзел шмат людзей.

Таксама і цяпер гайнаўскі аддзел звяртаецца за пасрэдствам „Нівы" да ўсіх дырэктараў школ, настаўнікаў, кіраўнікоў клубаў „Рух", „Рольніка", святліц, да ўсіх песняроў — старэйшых і маладых, каб падрыхтаваліся і масава прынялі ўдзел у гэтых конкурсах. Нашы ўдзельнікі заўсёды атрымліваюць узнагароды. У падрыхтоўку гэтых конкурсаў укладаюць многа сваіх сіл і ўмеласцей адданыя актывісты БГКТ.

Многія дырэктары школ і настаўнікі кожны год сістэматычна рыхтуюць сваіх вучняў да школьнага конкурсу. Да такіх школ залічаем школы: у Кленіках, Трасцянцы, Чыжах, Тыневічах, Нараўцы, Скупаве, Чаромсе-асадзе, Белавежы, Луцэ, Навасадах, Дубічах Царкоўных, Старым Корніне, Махнатым, Дубінах, Грабаўцы, Барысаўцы, Семяноўцы, Ляшуках, а таксама беларускі ліцэй у Гайнаўцы і школу № 3 у Гайнаўцы.

Многія кіраўнікі нашых клубаў „Рух" і „Рольніка" не абмяжоўваюць сваю працу толькі да адкрывання і закрывання клуба. Яны арганізуюць драматычныя гурткі, прымаюць актыўны ўдзел у конкурсах, умела арганізуюць вольны час. Да такіх клубаў і такіх кіраўнікоў належаць у нас: клуб „Рух" у Скупаве, Навасадах, Сухавольцах, Трасцянцы, Арэшкаве, Чаромсе-вёсцы, Рэпісках, Грабаўцы, Семяноўцы, Махнатым, Дабрывадзе, клуб чыгуначніка ў Чаромсе-асадзе, ГОК-і ў Белавежы, Кляшчэлях. Ва ўсіх гэтых клубах назіраем жывое культурнае жыццё.

Да ведама ўсіх зацікаўленых падаем, што ў гайнаўскім аддзеле ёсць рэпертуарныя матэрыялы. Гайнаўскі аддзел спадзяецца, што ў аглядзе 1974/75 г.г. прымуць удзел як ужо вядомыя і слаўныя песняры і гурткі, так і многа новых.

**В. Бура,**
сакратар гайнаўскага аддзела БГКТ.

**У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ**

### ЦІ БУДЗЕ КІНО Ў МАЛОЧКАХ?

**Адказвае:**

Urząd Powiatowy w Bielsku Podlaskim — Powiatowa Komenda Straży Pożarnych.

W załatwieniu prośby Obywatela (Mikołaja Hilkiewicza) skierowanej do redakcji „Niwa", Powiatowa Komenda Straży Pożarnych w Bielsku Podlaskim informuje, że dokonała kwalifikacji sali kinowej (we wsi Mołoczki) w dniu 24.X.1974 r., lecz z komisyjnych oględzin wynika, że jest szereg braków i usterek, które należy usunąć przed przystąpieniem do wyświetlania filmów. Powyższe usterki winne być usunęte przez miejscową ludność lub Urząd Gminny w Boćkach. Odpisy protokółów z usterkami znajdują się: 1-egz. u Obywatela Benedziuka Mikołaja zam, Mołoczki, 2 egz. — Urząd Gminy w Boćkach, 3-egz. — Wojewódzki Zarząd Kin w Białymstoku.

Sala mogła być zakwalifikowana o wiele wcześniej, lecz brak zasadniczych rzeczy, takich jak otworów okiennych oraz instalacji elektrycznej, nie pozwalał na zakwalifikowanie.

Cała dokumentacja z kwalifikacji sali kinowej została przesłana do Wojewódzkiego Zarządu Kin w Białymstoku.

**Z up. Naczelnika Powiatu**
**mjr poż. Adolf Czesnowski**
**Komendant Pow. Straży Pożarnych**

Ад рэдакцыі: Спадзяемся, што гміна і самі людзі возьмуцца і давядуць цяпер справу да канца.

**NIWA 15-950 Skr. poczt. 149 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch" Indeks 36811.**

